ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 103 (1637) | Пятніца, 29 снежня 1961 года | Цана 4 кап.

## Усесаюзная нарада па пытаннях ідэалагічнай работы

Як мы паведамлялі ўжо, 25 снежня ў зале пасяджэнняў Вялікага Крамлёўскага палаца адкрылася Усесаюзная нарада па пытаннях ідэалагічнай работы.

Удзельнікі нарады цёпла сустрэлі з'яўленне ў прэзідыуме таварышаў Ф. Р. Казлова, А. М. Касыгіна, А. І. Мікаяна, М. А. Суслава, М. С. Хрушчова, М. М. Шверніка, В. В. Грышына, П. Н. Дзёмічава, Л. Ф. Ільічова, Б. М. Панамарова, А. М. Шалепіна.

Адкрываючы нараду, Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС таварыш **М. С. Хрушчоў** сказаў, што Усесаюзная нарада па пытаннях ідэалагічнай работы склікана Цэнтральным Камітэтам партыі для абмеркавання задач у галіне ідэалогіі, што вынікаюць з рашэнняў XXII з'езда КПСС і новай Праграмы партыі.

У рабоце нарады прымаюць удзел 1.300 чалавек з мясцовых партыйных арганізацый і каля 1.400 работнікаў цэнтральных устаноў. Тут прадстаўлены, гаворыць М. С. Хрушчоў, усе атрады шматтысячнай арміі ідэалагічных работнікаў — сакратары Цэнтральных Камітэтаў Кампартый саюзных рэспублік, крайкомаў і абкомаў, якія займаюцца пытаннямі ідэалагічнай работы, загадчыкі аддзелаў прапаганды і агітацыі, навукі, культуры, кіраўнікі лектарскіх груп, рэдактары мясцовых і цэнтральных газет, часопісаў, выдавецтваў, дзеячы навукі, літаратуры і мастацтва, работнікі радыё і тэлебачання, вышэйшай і сярэдняй школы, культурна-асветных устаноў, радавыя прапагандысты і агітатары.

Такая вялікая і прадстаўнічая нарада па ідэалагічных пытаннях склікаецца ўпершыню. Цэнтральны Камітэт КПСС, падкрэслівае М. С. Хрушчоў, надае ёй важнае значэнне і жадае паспяховай работы.

Слова для даклада — XXII з'езд КПСС і задачы ідэалагічнай работы партыі — атрымлівае сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС тав. **Л. Ф. Ільічоў.**

26, 27, 28 снежня нарада працягвала сваю работу. У абмеркаванні даклада тав. Л. Ф. Ільічова прынялі ўдзел партыйныя работнікі, прапагандысты, дзеячы навукі, культуры і мастацтва. У спрэчках прынялі ўдзел 35 чалавек.

З кароткім заключным словам выступіў тав. Л. Ф. Ільічоў.

# XXII З'ЕЗД КПСС І ЗАДАЧЫ ІДЭАЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ

## *Даклад сакратара ЦК КПСС таварыша Л. Ф. ІЛЬІЧОВА на Усесаюзнай нарадзе па пытаннях ідэалагічнай работы*

З кожным днём усё глыбей і паўней раскрываецца сусветна-гістарычнае значэнне XXII з'езда КПСС. Яго ідэі натхняюць нашых аднадумцаў, служаць цэнтрам прыцягнення і апорай свабодалюбівых народаў усіх краін, яны ўсяляюць страх і разгубленасць у лагер нашых ворагаў. Ні адна міжнародная падзея апошніх год не хвалявала сусветную грамадскую думку ў больш вялікай ступені, чым XXII з'езд нашай партыі, новая Праграма КПСС, выдатныя даклады М. С. Хрушчова.

Ідэі XXII з'езда ўсемагутныя таму, што яны правільныя, таму што выказваюць думкі і пачуцці соцень мільёнаў людзей працы і дастойна вянчаюць вялікі шлях рэвалюцыйнай барацьбы ад «Маніфеста Камуністычнай партыі» да новай Праграмы КПСС, трапна і справядліва названай Камуністычным маніфестам сучаснай эпохі.

З'езд нашай партыі азнаменаваў новы трыумф вучэння Маркса—Энгельса—Леніна. Ён пераканаўча паказаў, што працяглая і гераічная барацьба працоўных нашай краіны, усяго міжнароднага рабочага класа карэнным чынам змяніла сацыяльнае аблічча свету.

XXII з'езд, прыняўшы трэцюю Праграму партыі, паклаў пачатак новаму этапу грамадскага прагрэсу, этапу барацьбы за непасрэднае ажыццяўленне прынцыпаў камунізма. Ён прадэманстраваў перад усім светам стваральную сілу камунізма, глыбокую навуковасць марксісцка-ленінскай ідэалогіі, высокую тэарэтычную сталасць партыі Леніна.

Савецкі Саюз уступіў цяпер у новую паласу развіцця, і гэта накладвае адбітак глыбокіх змяненняў на ўсе сферы нашага жыцця, у тым ліку — ідэалагічную. Да яе работнікаў прад'яўляюцца значна больш высокія патрабаванні, чым калі-небудзь раней. Пытанні камуністычнага выхавання працоўных, у першую чаргу маладога пакалення, павінны знаходзіцца ў цэнтры дзейнасці партыйных арганізацый, усёй савецкай грамадскасці.

Глыбокі сэнс заключан у тым факце, што XXII з'езд разгледзеў разам пытанне аб выніках дзейнасці партыі пасля XX з'езда КПСС і пытанне аб яе новай Праграме.

XX з'езд з'явіўся паваротным пунктам у развіцці партыі і краіны, усяго сусветнага камуністычнага руху.

Партыя адвергла варожы марксізму-ленінізму і прыродзе нашага грамадскага ладу культ асобы Сталіна, яна ўзяла рашучы курс на пераадоленне яго шкодных вынікаў. Увесь савецкі народ аднадушна адобрыў і актыўна падтрымаў ленінскую палітыку нашай партыі. Апошнія гады былі перыядам прынцыповай барацьбы новага ленінскага курсу супраць усяго старога, аджыўшага, барацьбы, якую па-ленінску цвёрда і па-ленінску прадбачліва накіроўваў Цэнтральны Камітэт нашай партыі на чале з М. С. Хрушчовым. Палітычны курс XX з'езда, генеральная лінія партыі былі сустрэты ў штыкі Молатавым, Малянковым, Кагановічам, Шапілавым і іншымі ўдзельнікамі антыпартыйнай фракцыйнай групы. Вядома, што гэтыя людзі прэтэндавалі на ролю тэарэтыкаў марксізма-ленінізма, хоць жыццё развянчала іх і яны прадсталі не толькі поўнымі палітычнымі банкрутамі, але і закарузлымі дагматыкамі, не здольнымі зразумець вялікія патрабаванні жыцця і творчую рэвалюцыйную сутнасць марксісцка-ленінскага вучэння. Крытыка культу асобы і ліквідацыя яго шкодных вынікаў ва ўсіх галінах партыйнай, дзяржаўнай і ідэалагічнай работы, ідэйны і арганізацыйны разгром антыпартыйнай групы аздаравілі абстаноўку ў нашай краіне, жыватворна адбіліся ў жыцці савецкага грамадства. Партыя прыняла мужнае рашэнне, яно з'явілася новым атэстатам палітычнай сталасці партыі, яе Цэнтральнага Камітэта.

Няма такога боку грамадскага жыцця Савецкага Саюза, які не захапіў бы народжаны XX з'ездам магутны паток творчых пошукаў, смелых дзярзанняў. Усе мы павінны глыбока ўсвядоміць, што без тых зрухаў, якія адбыліся ў партыі і краіне за апошнія гады, без той тэарэтычнай і практычнай работы, якую прарабілі партыя і яе Цэнтральны Камітэт, мы не змаглі б распрацаваць і прыняць новую Праграму, дастойную вялікай партыі Леніна.

Новая Праграма партыі — вышэйшае дасягненне сучаснай грамадска-навуковай думкі. У ёй знайшлі ўсебаковае абгрунтаванне тэарэтычныя праблемы будаўніцтва камунізма ў нашай краіне і сусветнага вызваленчага руху.

Ва ўсёй нашай ідэалагічнай рабоце, ці ідзе гутарка аб вуснай прапагандзе і агітацыі або друку, аб літаратуры і мастацтве або грамадскай навуцы, мы абавязаны праводзіць выразную грань паміж культам асобы і ўсёй шматгадовай і шматграннай дзейнасцю нашай партыі.

Культ асобы меў шкодныя вынікі і адыгрываў адмоўную ролю ў жыцці партыі, нашай краіны. Але нават у абстаноўцы культу асобы партыя дзейнічала як жывы арганізм, творча працавалі мясцовыя партыйныя арганізацыі.

У сваёй рабоце мы павінны растлумачваць, гаворыць дакладчык, што цень культу асобы не мог і не можа засланіць вялікія поспехі, якіх дасягнулі партыя і народ у будаўніцтве сацыялізма і камунізма. Ніякі культ асобы не мог спыніць пастулальнае развіццё савецкага грамадства, змяніць прыроду сацыялістычнага ладу, рашаючай рухаючай сілай якога заўсёды былі, ёсць і будуць шматмільённыя масы працоўных. Ніякі культ асобы не мог змяніць сутнасці рэвалюцыйнага светапогляду, пахіснуць арганізацыйныя, палітычныя і тэарэтычныя асновы нашай партыі, створанай і выхаванай у рэвалюцыйным духу вялікім Леніным.

Мы павінны цярпліва і настойліва растлумачваць погляды партыі на культ асобы і аўтарытэт кіраўнікоў, паказваць, што партыі, савецкаму народу жыццёва неабходны аўтарытэтныя, здольныя, адданыя справе камунізма кіраўнікі.

За апошнія гады партыя, усе яе арганізацыі многа і плённа працавалі над тым, каб павысіць узровень ідэалагічнай работы. Выдатны прыклад ленінскіх клопатаў аб ідэалагічнай рабоце і яе кадрах падаваў усёй партыі Цэнтральны Камітэт КПСС, які вывучыў становішча спраў на ўсіх асноўных участках ідэалагічнага фронту. Прынят рад прынцыповых рашэнняў па пытаннях прапаганды, агітацыі, друку, народнай асветы, грамадскай навукі, культуры, літаратуры і мастацтва.

Дзякуючы штодзённай увазе Цэнтральнага Камітэта КПСС, вялікай і разнастайнай рабоце мясцовых партыйных арганізацый, ідэалагічных устаноў, грамадскіх арганізацый і творчых саюзаў на ідэалагічным фронце ў наяўнасці ажыўленне.

**«У цяперашні час,** — падкрэсліваецца ў рэзалюцыі XXII з'езда партыі,— **галоўным у ідэалагічнай рабоце з'яўляецца глыбокае растлумачэнне Праграмы КПСС, узбраенне працаўнікоў савецкага грамадства вялікім планам барацьбы за перамогу камунізма, мабілізацыя ўсіх працоўных на ажыццяўленне новай Праграмы партыі».**

Ідэалагічная работа партыі — не самамэта, а эфектыўны сродак вырашэння пытанняў камуністычнага будаўніцтва. Ідэалагічная дзейнасць мае справу са свядомасцю чалавека, з яго псіхалогіяй, уздзейнічае на яго думкі і пачуцці.

Але як праверыць сілу яе ўздзеяння, як ацаніць яе вынікі? Ці ёсць такія вагі, на якіх можна было б узважыць плён ідэалагічнай работы? Ёсць, таварышы, і няхай гэта не будзе гучаць парадоксам. Гэта тыя ж вагі, на якіх мы ўзважваем хлеб наш надзённы, бавоўну, сталь, чыгун, мяса, — словам, усе матэрыяльныя каштоўнасці, створаныя чалавекам. Як правіла, паміж, скажам, вытворчымі поспехамі ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы і добрай ідэйна-выхаваўчай работай існуе прамая сувязь.

Рашэнні XXII з'езда характарызуюцца навуковым, творчым падыходам да вызначэння задач камуністычнага выхавання. Адзін з важнейшых вывадаў заключаецца ў тым, што без далейшага павышэння ўзроўню і размаху ідэалагічнай дзейнасці нельга паспяхова рухацца ўперад. Пытанні выхавання новага чалавека партыя разглядае і вырашае ў непарыўным адзінстве з задачамі стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма і фарміравання камуністычных грамадскіх адносін.

**Ідэалагічная работа можа і абавязана стаць яшчэ больш актыўным фактарам у барацьбе за ажыццяўленне галоўнай эканамічнай задачы партыі і ўсяго народа — за стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма.**

Камунізм і праца неаддзельныя. Імена таму XXII з'езд партыі падкрэсліў, што **падрыхтоўка чалавека да працоўнай дзейнасці, працоўная загартоўка людзей, выхаванне любві і павагі да працы складаюць сутнасць, аснову ўсёй работы па камуністычнаму выхаванню.**

Нам яшчэ вельмі многа трэба зрабіць, каб выканаць гэтае ўказанне партыі. Важна, у прыватнасці, адкрыць сапраўдны і няспынны агонь супраць тых (няхай іх і нямнога), хто высакамерна, па-панску адносіцца да працы наогул, асабліва да такіх яе відаў, як праца рабочага, калгасніка.

Працоўнае выхаванне ёсць у першую чаргу выхаванне камуністычных адносін да працы, выхаванне маральных стымулаў да працы, камуністычнай дысцыпліны. Камунізм азначае не толькі вышэйшую **прадукцыйнасць**, але і вышэйшую **арганізацыю** працы, заснаваную на свядомай дысцыпліне.

Падкрэсліваючы неабходнасць цеснай сувязі прапаганды з вытворчымі справамі, дакладчык гаворыць аб важнасці выхавання на лепшых узорах працы, на вопыце перадавых рабочых і калгаснікаў з абавязковым раскрыццём грамадскага значэння і рухаючых матываў іх працоўнага гераізму.

Магутным сродкам працоўнага выхавання, мабілізацыі мас на барацьбу за стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма з'яўляецца сацыялістычнае спаборніцтва. Рух брыгад, а цяпер ужо цэхаў і цэлых прадпрыемстваў камуністычнай працы — прыкметная з'ява нашага часу, і перш за ўсё таму, што ён адлюстроўвае новыя рысы ў адносінах да працы, калектыву, грамадства, тут фарміруюцца характары і аблічча новых людзей. Але, на жаль, у арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва нямала фармалізму, у чым у многім вінаваты і ідэалагічныя работнікі.

Ідэалагічная работа, таварышы, павінна адыграць важную ролю не толькі ў стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, але і **ў фарміраванні камуністычных грамадскіх адносін.** На самай справе, які б бок фарміравання камуністычных грамадскіх адносін мы ні ўзялі, ва ўсіх без выключэння выпадках поспех залежыць ад узроўню і размаху выхаваўчай работы, ступені свядомасці народных мас.

Возьмем, напрыклад, задачу перарастання дзяржаўнасці ў грамадскае самакіраванне. Ажыццяўленне гэтай задачы патрабуе вялікай ідэйна-выхаваўчай работы, значнага павышэння свядомасці народных мас. Грамадскае ж самакіраванне мяркуе актыўны ўдзел грамадзян у кіраванні вытворчымі і ўсімі іншымі справамі грамадства; камуністычныя адносіны да працы, беражлівыя адносіны да грамадскага багацця, строгае захаванне норм агульнажыцця.

Ва ўмовах, калі жыццё нашага грамадства, паводзіны і ўзаемаадносіны яго членаў усё ў большай ступені рэгулююцца нормамі маралі, перакана్нем і выхаваннем людзей, значна ўзрастае роля грамадскага ўплыву.

Безумоўна, яшчэ далёка не адпала неабходнасць у прававым прымусе і пакаранні, не можа быць аслаблен кантроль за строгім захаваннем норм савецкага права. Наадварот, у цяперашні

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## ЗА ЛЕПШУЮ Ў СВЕЦЕ

Калектыў Каунаскай друкарні імя К. Пажэлы выступіў ініцыятарам спаборніцтва пад заклікам: **савецкая кніга—значыць выдатная, лепшая ў свеце.** Патрыятычны пачын літоўскіх таварышаў знайшоў самую гарачую падтрымку сярод паліграфістаў нашай рэспублікі.

Выпускаць выдатнай якасці кнігу, брашуру, газету—за гэта цяпер спаборнічаюць работнікі абласных і раённых друкарань і газет. У Брэсцкай вобласці аб'яўлены паход за высокую паліграфічную якасць раённых газет. Каб палепшыць выраб клішэ ў Кобрынскай, Пінскай і Баранавіцкай друкарнях устаноўлены электронна-гравіравальныя аўтаматы, якія паскорылі выпуск клішэ ў дзесяць разоў пры значна лепшай якасці.

У кастрычніку праведзена навукова-тэхнічная канферэнцыя па пытаннях механізацыі працаёмкіх працэсаў і высокай якасці паліграфічнага выканання прадукцыі. Канферэнцыя адбывалася ў Пінску, у ёй прынялі ўдзел работнікі раённых і гарадскіх друкарань вобласці. Вопыт брэсцкіх паліграфістаў прыехаў вывучаць дырэктар Ніжнетагільскай друкарні тав. Марозаў.

Днямі ў Баранавічах адбылася навукова-тэхнічная канферэнцыя, на якой абмяркоўвалася пытанне паляпшэння паліграфічнай якасці раённых газет. Цікавую лекцыю на тэму «Сучасная паліграфічная прамысловасць і задачы яе развіцця» прачытаў запрошаны з Масквы кандыдат тэхнічных навук А. Чарнышоў. Такая ж лекцыя прачытана і для паліграфістаў Брэста.

У новым годзе ў вобласці будзе праведзены конкурс на лепшую раённую газету і яе паліграфічнае выкананне. З мэтай вывучэння вопыту лепшыя паліграфісты Брэста выязджаюць у іншыя гарады рэспублікі і краіны. Нядаўна рацыяналізатары абласной друкарні —электрык тав. Лікер і друкар тав. Хадарэнка пабывалі ў Маскве. У Ленінград паехаў зменны сакратар газеты «Зара» тав. Оркін, у Кіеў—намеснік рэдактара абласной газеты тав. Спірыдонаў.

* * *

Аддзел паліграфіі і выдавецтваў Гомельскага абласнога ўпраўлення культуры сістэматычна праводзіць агляды раённых газет, тэма якіх—паліграфічнае афармленне газеты. У снежні былі зроблены агляды рэчыцкай, рагачоўскай і буда-кашалёўскай раённых газет. Аддзел пільна сочыць за вёрсткай газет, якасцю ілюстрацый і г. д.

На гомельскай фабрыцы «Палесдрук» праведзен сямідзённы семінар лінатыпістаў раённых друкарань, у студзені адбудзецца семінар друкароў.

## *На музычнай «серадзе»*

Дзяржаўны народны аркестр БССР імкнецца папоўніць свой рэпертуар новымі творамі беларускай музыкі. Сёлетні год быў асабліва плённы для выдатнага музычнага калектыву рэспублікі. Кампазітары стварылі для яго новыя творы, многія з якіх уваходзяць цяпер у канцэртныя праграмы.

Праўленне Саюза кампазітараў БССР запрасіла на чарговую музычную «сераду» калектыў Народнага аркестра, каб праслухаць і абмеркаваць яго новы рэпертуар. У зале кампазітарскай арганізацыі творчы калектыў пад кіраўніцтвам дырыжора В. Барсава выканаў уверцюру Ю. Семянякі, «Маладзёжную рапсодыю» І. Ронькіна, Канцэрт для цымбал з аркестрам Д. Смольскага (саліст В. Бурковіч), «Маладзёжнае скерца» Ул. Чараднічэнкі, «Прывітальную уверцюру Д. Камінскага, тры фрагменты з балета Г. Вагнера «Падстаўная нявеста» і дзве сатырычныя песні М. Аладава на словы А. Дзеружынскага (салістка Г. Агніўцава).

У абмеркаванні новых твораў прынялі ўдзел кампазітары, музыказнаўцы, а таксама музыканты аркестра. Выступаючы, многія адзначалі, што арганізацыя праслухоўвання аркестравых твораў у памяшканні Саюза была не зусім удалай з-за дрэннай акустыкі залы. Станоўчую ацэнку на музычнай «серадзе» атрымалі «Маладзёжная рапсодыя» І. Ронькіна, «Маладзёжнае скерца» Ул. Чараднічэнкі і цымбальны канцэрт Д. Смольскага. Уверцюра ж Д. Камінскага некалькі пераклікаецца з творамі гэтага ж кампазітара, напісанымі раней для Народнага аркестра.

### УЗНАГАРОДЖАННЕ АРТЫСТА

**Днямі споўнілася 50 год з дня нараджэння і 30 год сцэнічнай дзейнасці народнага артыста БССР Я. Палосіна. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва Я. Палосін узнагароджан Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

**Малады скульптар І. Міско працуе над партрэтам Героя Сацыялістычнай Працы, расточніка Мінскага завода аўтаматычных ліній Аляксандра Віташкевіча.**

# ПЕНСІЁННАЯ КНІЖКА— НЕ АТЭСТАТ СТАРАСЦІ

**У перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма павышаецца роля грамадскіх арганізацый.**
**(З Праграмы КПСС).**

Грамадзянка Левіна атрымала павестку ў суд. Перад гэтым яна зноў удосталь паздзеквалася са сваёй суседкі Аляксандры Прасолавай, выстраліўшы ў яе, як з кулямёта, тысячай слоў лаянкі, большая частка якіх зусім не можа ўпрыгожыць чалавечай мовы. І вось гэтая ціхманая прытворшчыца, Прасолава, узяла ды і падала ў суд — як гэта вам падабаецца?! — на яе, грамадзянку Левіну, якую трэба вельмі паважаць, хоць бы таму, што муж у яе не якая-небудзь там дробная сошка, якіх многа ў Вілейцы, а адва-кат. Так, так, гэта вам не абы-хто!

Але, як бы там ні было, а павестка, афармленая па ўсіх правілах судавядзення (ужо як-небудзь жонка адваката разбіраецца ў такіх рэчах!), ляжала на стале, і на гэтую неверагодную ў жыцці грамадзянкі Левінай падзею трэба было неяк рэагаваць. Грамадзянка Левіна рэагавала бурна.

— Аляксандр, ты чуеш?! Мяне выклікаюць у суд! — закрычала яна такім голасам, нібы загарэўся дом.

Аляксандр Давыдавіч баязліва ўзяў павестку, пакруціў яе ў руках, і грамадзянка Левіна з трывогаю наглядала, як нахмурыўся адвакацкі лоб. Але адразу ж зморшчынкі на ілбе Аляксандра Давыдавіча разгладзіліся і, з палёгкаю ўздыхнуўшы, ён паведаміў:

— Не панікуй. Суд та-ва-ры-скі.

— А што ён можа? — на ўсякі выпадак спытала Левіна.

— Не бойся,— з выглядам пераваrі ўсміхнуўся адвакат,— да вышэйшай меры ён не прысуджае. Нават году папраўчых работ не мае права даць. Дзесяць рублёў штрафу—вось якая ў яго вышыня.

— Дык дамо ім гэтыя дзесяць рублёў і няхай адчэпяцца!

— На жаль, нумар не пройдзе, — сказаў Аляксандр Давыдавіч. — Таварыскі суд мае, так сказаць, выхаваўчыя мэты. Цябе будуць выхоўваць. Грамадскасць будзе выхоўваць,— удакладніў ён.

— Але паслухай, гэта ж ганьба! Жонка адваката сядзе на лаву падсудных, і на яе ўсе пальцам будуць тыцкаць!

— Вядома, гэта дрэнна,— згадзіўся Аляксандр Давыдавіч.— Але законы я ведаю лепш за іх. Мне няцяжка абкруціць гэтых дарослых юрыстаў вакол пальца,— Аляксандр Давыдавіч пагардліва ўсміхнуўся... — Дарэчы, старшынёю таварыскага суда выбралі, наколькі я памятаю, Марачкоўскага.

— Гэтага пенсіянера?! — здзівілася грамадзянка Левіна.—Дык з яго ж пясок сыплецца!

— Вось ты і памылілася,— паправіў жонку Аляксандр Давыдавіч,— пясок з яго не сыплецца. Чалавек ён, наадварот, цвёрды, яму ў рот палец не кладзі — адкусіць. Але як бы там ні было, паглядзім — хто каго!

Завяршыўшы тыраду гэтай напалеонаўскай фразай, Аляксандр Давыдавіч (ў дужках зазначым: пасля аказалася, што рэпутацыя гэтага адваката вельмі падмочана; але гэта ўжо іншая гаворка), распрацаваў план і пачаў дзейнічаць.

* * *

Пакінем на час грамадзянку Левіну калаціцца над павесткай. Зазірнём на хвілінку ў прадуктовы магазін № 3 у той жа Вілейцы.

— На базу паступілі аўсяныя крупы, зараз іх сюды прывязуць, — гаварыла пажылая жанчына са стомленым тварам, звяртаючыся аднначасова і да пакупніц і да прадаўшчыцы, якая спакойна стаяла за прылаўкам.— А майму ўнуку ўрач якраз прапісаў дыэтычнае харчаванне. Вось унучак і парадуецца аўсянцы!

Прайшло паўгадзіны, потым гадзіна, а круп усё яшчэ не думалі прадаваць. Прадаўшчыца некуды знікла.

А ў гэты ж час загадчыца базы Воблікава, бухгалтар базы Бакуноў і загадчыца магазіна № 3 Маліноўская дзялілі паміж сабою і сваімі знаёмымі аўсяныя крупы. Нікому з іх не патрэбна было дыэтычнае харчаванне, але аўсянка — нядрэнны, а галоўнае, танны корм для свінней. Дык чаму ж не скарыстаць яго? І ўсе трое дзейнічалі рашуча і энергічна, развозячы падарунак куйбышаўскіх калгаснікаў па дамах. А бабуля стаяла ў чарзе, дбаючы пра свайго ўнука, хворы страўнік якога патрабаваў дыэтычнага харчавання.

— Асцярожна вы з гэтымі крупамі,— настаўляла таварышаў па службе загадчыца базы Воблікава,— а то, чаго добрага, накрые АБХСС...

— АБХСС — гэта, вядома, дрэнна,— згадзіўся бухгалтар базы Бакуноў,— але яшчэ горш Марачкоўскі...

— Гэта Васіль Мікалаевіч, ці што? Пенсіянер?

— Ён,— адказаў бухгалтар.— Шкодная для нашага брата асоба, усюды свой нос уткне.

— Як жа яму не ткнуць, ён якніяк член камісіі грамадскага кантролю над намі, гандлярамі. Магазіны, сталовыя — усё яго датычыць,— праінфармавала Маліноўская.

— Цішэй! — прыклаў палец да губ бухгалтар.— Вунь ён сам ідзе.

* * *

А цяпер перанясёмся ў думках у будынак Вілейскага гарсавета.

На стале ў старшыні Дзмітрыя Іванавіча Котава ляжыць спіс жыхароў горада, якія стаяць у чарзе на кватэры. Днямі ў Вілейцы закончаць будаўніцтва яшчэ аднаго жылога дома. Каго туды пасяліць у першую чаргу?

— Пачакайце прымаць канчатковае рашэнне,— папярэджвае сакратар.— Тут нам ніяк не абысціся без камісіі...

— Ты маеш на ўвазе камісію па ўліку і размеркаванню кватэр? — удакладняе Котаў.

— Вось імення! Мы ж самі і зацвярджалі гэтую камісію. І, як вы памятаеце, членам яе з'яўляецца пенсіянер Васіль Мікалаевіч Марачкоўскі.

У гэты час дзверы расчыняюцца і ў кабінет старшыні заходзіць— лёгкі на памін! — сам Васіль Мікалаевіч.

— Добры дзень,— гаворыць ён глухаватым, але бадзёрым ценарком,— дом № 24 калі будзем засяляць? Ён жа ўжо амаль гатовы!

* * *

Што ж гэта за чалавек такі, Васіль Мікалаевіч Марачкоўскі, і чаму імя яго такое папулярнае ў Вілейцы?

Вернемся да таго часу, калі Васіль Мікалаевіч не быў яшчэ ні старшынёю таварыскага суда пры вілейскім домакіраўніцтве, ні членам розных грамадскіх камісій, ні намеснікам сакратара партыйнай арганізацыі, якая ў асноўным складаецца з пенсіянераў-актывістаў, і не прымаў актыўнага ўдзелу ў рабоце штаба народных дружын. На нейкі зусім невялікі час ён аказаўся нібы адарваным ад жыцця грамадства. Пайшоўшы на пенсію, ён стаяў на раздарожжы і думаў пра тое, што яму рабіць далей, куды дзець далёка яшчэ нявыкарыстаную энергію і незвычайныя арганізатарскія здольнасці, якія чалавек набыў за 25 год службы ў Савецкай Арміі.

Дзіўны гэта быў стан, дзіўны і нязвыклы. Так, напэўна, адчувае сябе рыба, выкінутая на пясок. Паявілася задышка, пачалі даймаць хваробы, пра якія Васіль Мікалаевіч, маючы шмат вольнага часу, паспеў ужо даведацца сякія-такія непрыемныя звесткі з кароткай медыцынскай энцыклапедыі. Раней не было часу прыслухоўвацца да гэтых хвароб. Час быў верным саюзнікам, яго ніколі не хапала. Цяпер, наадварот, абцяжарваў вольны час. «Пойдзем, прабавім час, згуляем у падкіднога дурня»,— прапанаваў неяк адзін знаёмы, пенсіянер ужо з немалым стажам. Васілю Мікалаевічу ад гэтых слоў стала страшна. «Бавіць час»! Які жахлівы выраз! Не, «падкідныя дурні» гэта не для яго. Можна прыдумаць штонебудзь цікавейшае. Збіраць, напрыклад, грыбы, лавіць плотачак і акунькоў. За горадам цудоўная рэчка, быстраплынная, празрыстая. За ракою цудоўныя лясы... Зімою — утульнае крэсла, у якім добра падрамаць, разумныя кнігі. Іх можна чытаць не спяшаючыся, з густам.

У патоку гэтых невясёлых дум быў струмень з'едлівай іроніі, і яна давала надзею на тое, што «бавіць час» усё ж не давядзецца. Павінен жа ён знайсці сабе сапраўдны занятак!

За плячыма ў Васіля Мікалаевіча было прыгожае, цудоўна пражытае жыццё. Да яго Васіль Мікалаевіч з поспехам мог бы паставіць эпіграф з Аляксандра Блока: «І вечны бой! Спакой нам толькі сніцца...» Цяпер словы ў гэтым бессмяротным радку варта было б пераставіць наадварот: бой адгрымеў, водгулле яго растала далёка, надышоў спакой і ён прыгнятаў.

Васіль Мікалаевіч ішоў па вуліцах Вілейкі, і вострыя, неадступныя думкі падганялі яго, прымушаючы паскараць крокі.

Міма Марачкоўскага, грукочучы, праімчаўся грузавік з кузавам, поўным маладзенькіх дрэў. Машына, скрыгатнуўшы тармазамі, спынілася. Хлопцы і дзяўчаты пасаскаквалі на брук, пачалі згружаць дрэўцы. Некаторыя ўжо капалі ямкі. Вуліца вывела Васіля Мікалаевіча на плошчу Леніна. Тут хутка адкрыюць помнік Уладзіміру Ільічу. Якая прыгожая будзе гэтая плошча, калі прыбяруць будаўнічае смецце, а газоны і клумбы стануць яркімі ад зеляніны і кветак! Утульны, чысты, зялёны гарадок будуецца, прыгажэе. Разам з горадам становяцца духоўна прыгажэйшымі яго жыхары. Амаль у кожнага, калі ён не дармаед, не злодзей і не прайдзісвет, ёсць любімы занятак, якому прысвячаецца жыццё. Знойдзе сабе такую справу і Васіль Мікалаевіч. Пенсіённая кніжка — не атэстат старасці, сэрца не адправіш на пенсію, яно любіць жыццё, работу, пакуль б'ецца ў грудзях...

Гулка бразнуўшы веснічкамі, на вуліцу выбег хлапчук гадоў дванаццаці. Чаго гэта ён так разагнаўся? Ага, даганяе свайго дружбака, напэўна, гэта ў іх гульня такая: хто хутчэй дабяжыць. Нечакана хлапчук падняў на хаду камень з бруку і, шырока размахнуўшыся, шыбануў яго ў таго, хто ўцякаў, але не трапіў. Дзын! — зазвінела выбітая шыба. У тую ж хвіліну на вуліцу выбеглі дзве жанчыны, напэўна, маці гэтых хлапчукоў. Яшчэ на хаду яны пачалі асыпаць адна адну лаянкай. «Я тваймý Кольку вушы паадкручваю!» — крычала адна з іх, грудзямі напіраючы на суседку. А тая не заставалася ў даўгу. «Ты б лепш свайго вылюдка глядзела!» — крычала яна. На жанчын непрыемна было глядзець. Валасы ў іх раскудлаціліся, твары аж пырскалі злосцю. Спыняліся прахожыя, павыходзілі з дамоў суседзі.

— Спакою няма ад гэтых скандалістак,— сказала пажылая жанчына, з асуджэннем і непрыязнасцю гледзячы на брыдкую сцэну. — Замест таго, каб дзяцей выхоўваць, яны нацкоўваюць іх, як сабак, адно на другога, а калі тыя паб'юцца, лемантуюць на ўсю вуліцу, а бывае, і ў валасы ўчэпяцца адна адной. Маткі называюцца! У міліцыю на іх заявіць трэба.

— Наўрад ці паможа,— зазначыў стары ў ватоўцы. — Усёй грамадой на іх дзейнічаць трэба.

— Вы маеце на ўвазе таварыскі суд? — спытаў інтэлігентны з выгляду мужчына ў акулярах.

— А чаму б і не? — адказаў стары.— Такія суды, я чытаў, ужо ёсць дзе-нідзе. І карысць ад іх, трэба сказаць, вялікая! Вось сабраліся б людзі з гэтай вуліцы і з суседніх ды прапясочылі б гэтых скандалістак як мае быць, дык яны б пасля гэтага і сталі цішэйшыя за ваду, ніжэйшыя за траву!

Задаволена ўсміхнуўшыся, Васіль Мікалаевіч ідзе далей, і з галавы ў яго не выходзіць слова — грамадскасць. Так, гэта вялікая сіла. І роля яе будзе ўсё расці па меры набліжэння да камунізма. Пра гэта цяпер усюды пішуць... Ды што пішуць! Само жыццё пацвярджае гэта! Вось будуюць жа ў калгасах школы метадам народнай будоўлі. А дрэвы, якія цяпер прывёз грузавік? Іх садзяць, даглядаюць гараджане, і нікому з іх у галаву не прыйдзе патрабаваць за гэта плату. На многіх заводах майстры бясплатна навучаюць вучняў. Усюды з вялікім поспехам дзейнічаюць добраахвотныя народныя дружыны па ахове грамадскага

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# XXII З'ЕЗД КПСС І ЗАДАЧЫ ІДЭАЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ

## *Даклад сакратара ЦК КПСС таварыша Л. Ф. ІЛЬІЧОВА*

### *на Усесаюзнай нарадзе па пытаннях ідэалагічнай работы*

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

час асабліва важна пастаянна ўдасканальваць наша заканадаўства, дабівацца яго няўхільнага захавання.

Наша партыя паставіла ў якасці адной з галоўных задач камуністычнага пераўтварэння свету задачу выхавання новага, усебакова развітага чалавека, які гарманічна спалучае ў сабе духоўнае багацце, маральную чысціню і фізічную дасканаласць. Пад духоўным багаццем падразумяваюцца навуковы светапогляд, ідэйная перакананасць, шырокая політэхнічная адукаванасць, высокая ўнутраная і знешняя культура, развітыя эстэтычныя густы.

Новы чалавек выхоўваецца ўсім укладам нашага жыцця, у працэсе працы, грамадска-палітычнай дзейнасці, у ходзе барацьбы за камунізм.

Але мы дапусцім сур'ёзную памылку, калі будзем думаць, што выхаванне новага чалавека працякае стыхійна, аўтаматычна, пад уплывам адных толькі аб'ектыўных фактараў. Як бы важныя яны ні былі, самі па сабе яны яшчэ не забяспечаць фарміраванне новага чалавека без актыўнага ўдзелу суб'ектыўных фактараў, без упартай і мэтанакіраванай ідэалагічнай, выхаваўчай работы партыі і ўсёй савецкай грамадскасці.

Выхаванне новага чалавека — **генеральная лінія нашай ідэалагічнай работы, рашаючы паказчык яе дзейснасці.**

Прагтама КПСС ставіць велізарнай важнасці задачу — **сфарміраваць на аснове марксізма-ленінізма ва ўсіх працаўнікоў савецкага грамадства навуковы светапогляд.** «Партыя ставіць задачай, — гаворыцца ў Праграме, — выхаванне ўсяго насельніцтва ў духу навуковага камунізма, дабіваючыся, каб працоўныя глыбока разумелі ход і перспектывы сусветнага развіцця, правільна разбіраліся ў падзеях унутры краіны і на міжнароднай арэне, свядома будавалі жыццё па-камуністычнаму».

Зразумела, фарміраванне ва ўсіх савецкіх людзей навуковага светапогляду — гэта не толькі вялікая, але і надзвычай складаная і цяжкая задача. Мы не павінны дапускаць памылкі і думаць, што яе выкананне — манаполія якіхсьці спецыяльных форм ідэалагічнай работы — сістэмы палітычнай асветы або грамадскай навукі, літаратуры або мастацтва. Безумоўна, у рознай ступені, у розных формах, але **ўсе без выключэння ўчасткі ідэалагічнага фронту** могуць і абавязаны папрацаваць на ніве фарміравання марксісцка-ленінскага светапогляду ва ўсяго насельніцтва нашай краіны.

Возьмем нашу савецкую школу. Дзе, як не ў школе, адбываецца працэс фарміравання навуковага светапогляду? Савецкая школа, асабліва пасля яе перабудовы на аснове ўказанняў партыі, дабілася сур'ёзных поспехаў. Але наша сярэдняя школа пакуль яшчэ слаба вырашае задачу **фарміравання ў юнакоў і дзяўчат адзінага і стройнага матэрыялістычнага светапогляду.**

Справа выпрацоўкі трывалага камуністычнага светапогляду ў вучняў сярэдніх школ — важнейшая задача педагагічных калектываў, партыйных, камсамольскіх і піянерскіх арганізацый, бацькоў і ўсёй грамадскасці. Вялікую ролю заклікана тут адыграць выкладанне асноў палітычных ведаў, якое ўводзіцца па пастанове ЦК КПСС у старшых класах сярэдніх навучальных устаноў.

Недастаткова пакуль вырашае задачу фарміравання ў моладзі глыбокага светапогляду, ідэйнай перакананасці і наша вышэйшая школа. Гвозд пытання тут па-ранейшаму ў слабасці выхаваўчай работы, нярэдка ў фармальным вывучэнні некаторымі студэнтамі грамадскіх навук, марксісцка-ленінскай тэорыі.

Выпраўляць становішча спраў трэба пачынаць з выкладчыкаў грамадскіх навук. Некаторых з іх трэба **перавучыць, перападрыхтаваць**, дапамагчы ім вызваліцца ад няправільных, дагматычных поглядаў. Мы павінны давяраць выкладчыцкую работу людзям, якія здольны думаць творча, здольны запаліць цікавасць студэнтаў, прывіць ім любоў да навук, якія ўказваюць шлях стварэння новага, камуністычнага грамадства.

Важная роля ў фарміраванні навуковага светапогляду ў працоўных нашай краіны, у прапагандзе і творчым развіцці нашай рэвалюцыйнай тэорыі належыць **установам і работнікам грамадскіх навук.** Партыя патрабуе, каб нашы эканамісты, філосафы, гісторыкі, прававікі, — словам, усе прадстаўнікі грамадскіх навук стаялі на глебе жыцця. Даўно ўжо час нашым вучоным смялей брацца за распрацоўку актуальных праблем, удзяляць больш увагі канкрэтным сацыяльным даследаванням. У нас ёсць сталыя і добрыя тэарэтычныя кадры, але іх трэба смялей дапаўняць маладымі творчымі сіламі.

Дакладчык далей гаворыць аб шкодных выніках культу асобы ў тэорыі, падрабязна спыняецца на задачах грамадскіх навук.

Быў час калі ў нашай літаратуры па грамадска-палітычных праблемах, гаворачы аб прамовах, артыкулах і работах Сталіна, не было іншых паняццяў і выказванняў, акрамя «вялікае» і «геніяльнае». Цяпер мы адмовіліся ад такіх паняццяў. І зусім правільна адмовіліся. Няма ніякіх падстаў лічыць усе творы Сталіна ўкладам, а тым больш вялікім, у марксісцка-ленінскае вучэнне. Безумоўна, Сталін меў заслугі перад партыяй і камуністычным рухам, у тым ліку і ў галіне тэорыі. Нельга скідваць з рахунку тыя яго творы, у якіх ён папулярызаваў марксізм-ленінізм, выказваў ленінскія погляды, абараняў іх у барацьбе з праціўнікамі сацыялізма, дзе ён стаяў на правільных тэарэтычных пазіцыях. Такія, напрыклад, яго лекцыі «Аб асновах ленінізма», кніга «Марксізм і нацыянальнае пытанне».

Іншая справа, калі Сталін спрабаваў «развіваць» марксізм-ленінізм. Тады ён дапускаў многа тэарэтычных памылак, суб'ектыўных ацэнак, фармуляваў палажэнні ў выглядзе бясспрэчных пастулатаў, адарваных ад жыцця.

**У галіне марксісцкай філасофіі** ён паставіў памылковае палажэнне аб адсутнасці адзінства працілегласцей, унёс блытаніну ў пытанне аб адносінах да філасофскай спадчыны мінулага, у марксісцкае вучэнне аб узаемаадносінах базісу і надбудовы; «адмяніў» закон адмаўлення адмаўлення і наогул замяніў законы матэрыялістычнай дыялектыкі «рысамі дыялектыкі», устанавіў «закон» абвастрэння класавай барацьбы па меры росту поспехаў сацыялізма ў нашай краіне.

Вядомая работа Сталіна «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме» ўтрымлівае кароткі пераказ асноў марксісцкай філасофіі, і хаця ў ёй ёсць памылкі, яна была ўзнята да ўзроўню «вяршыні» марксісцка-ленінскай думкі.

**У галіне эканамічнай тэорыі марксізма** ў Сталіна былі дапушчаны сур'ёзныя памылкі па пытанню аб шляхах уздыму калгаснай уласнасці да ўзроўню агульнанароднай, аб згортванні таварнага абароту і замене яго прадуктаабменам, аб тым, што пры сацыялізме плацежаздольны попыт насельніцтва павінен заўсёды апярэджваць вытворчасць, няправільнае тлумачэнне Сталіным прычын таварнай вытворчасці пры сацыялізме, выключэнне са сферы таварнай вытворчасці сродкаў вытворчасці, памылковае палажэнне аб непазбежнасці скарачэння агульнага аб'ёму вытворчасці ў галоўных капіталістычных краінах у пасляваенны перыяд і іншыя.

**У галіне прававой навукі,** як вядома, Сталін сам амаль не выступаў, прадаставіўшы ролю «тэарэтычнай дубінкі» Вышынскаму, які быў яго рупарам у пытаннях дзяржавы і права і доўгія гады выступаў у якасці лідзіруючага тэарэтыка ў гэтых пытаннях. Добра вядома, да якіх вяршынь тэарэтычнага самавольства даходзіў Вышынскі ў спробах юрыдычна падмацаваць шкодны тэзіс Сталіна аб абвастрэнні класавай барацьбы па меры ўмацавання пазіцый сацыялізма ў нашай краіне, у імкненні прыстасаваць прававую навуку для апраўдання судовага самавольства і парушэння законнасці.

**У галіне гісторыка-партыйнай навукі** — найбольш цяжкія вынікі меў суб'ектывізм Сталіна ў ацэнцы гістарычных падзей, скажэнне ім фактаў у мэтах залішняга ўзнясення ўласнай асобы, прыніжэнне ролі Леніна ў гісторыі нашай партыі, а самае галоўнае — **недаацэнка ролі партыі, народных мас у развіцці грамадства.**

Гісторыка-партыйная навука перакройвалася на ўсе лады, толькі б прадставіць Сталіна ў выглядзе «бясхібнага», выключыць усякую думку аб магчымасці тэарэтычных і палітычных памылак з яго боку, хаця, як вядома, такіх памылак было нямала. Дакладчык прыводзіць у пацвярджэнне рад канкрэтных прыкладаў.

Якое ж правільнае рашэнне прыняць? Гаварыць толькі аб памылках Сталіна, як прапануюць некаторыя работнікі ідэалагічных устаноў, і маўчаць аб тых фактах, калі ён займаў правільныя тэарэтычныя і палітычныя пазіцыі? Але ці трэба ўпадаць у такую крайнасць?

Ленінізм вучыць, што ёсць толькі адзін правільны шлях — шлях гістарычнай праўды, якую і трэба аднавіць у поўным аб'ёме. Мы павінны рашуча выступаць супраць тых, хто спрабуе падвесці «тэарэтычную» базу пад культ асобы, чапляецца за развенчаны жыццём погляд на Сталіна, як на «тэарэтычнага бога», хто не можа вызваліцца ад заганнага круга старых уяўленняў.

Мы і надалей павінны расчышчаць ідэалагічнае поле ад рэштак культу асобы. Разам з тым трэба перасцерагчы ад спробы выкарыстаць вострую крытыку культу асобы ў мэтах, далёкіх ад інтарэсаў партыі.

Нельга дапускаць, таварышы, каб **пад выглядам барацьбы з вынікамі культу асобы ў марксісцка-ленінскай тэорыі наносілі ўдар па самой гэтай тэорыі, па яе асновах, каб пад шумок усплывалі наверх і пранікалі ў наш друк усякага роду антыленінскія погляды і плыні, якія даўно разбіты і выкінуты нашай партыяй, У. І. Леніным.**

Фарміраванне навуковага светапогляду ва ўсіх членаў грамадства — ключ да вырашэння карэнных пытанняў камуністычнага выхавання. Светапогляд людзей умацоўваецца і адточваецца ў барацьбе з ідэалістычнымі, метафізічнымі і іншымі антынавуковымі канцэпцыямі.

У цэлым у нас праведзена вялікая работа па атэістычнаму выхаванню працоўных: савецкія людзі ў пераважнай большасці — свядомыя атэісты. Але рэлігійныя перажыткі жывучыя, яны ўчэпіста трымаюць мільёны людзей.

Дакладчык прыводзіць шэраг фактаў, якія сведчаць аб сур'ёзных недахопах у пастаноўцы навукова-атэістычнай прапаганды ў некаторых абласцях і рэспубліках.

Побач з фарміраваннем навуковага светапогляду другім важнейшым напрамкам нашай ідэалагічнай работы з'яўляецца **выхаванне ўсіх працаўнікоў савецкага грамадства ў духу самай высокай і гуманнай камуністычнай маралі.**

Наша партыя сфармулявала ў новай Праграме маральны кодэкс будаўнікоў камунізма. У ім увасоблены тыя маральныя прынцыпы, якія выпрацоўваліся прагрэсіўнымі грамадскімі сіламі, асабліва рабочым класам, на працягу ўсёй шматвяковай гісторыі чалавецтва. Разам з тым у ім выказаны этычныя патрабаванні, якія маглі нарадзіцца і нарадзіліся толькі ва ўмовах сучаснай фазы камуністычнага пераўтварэння свету.

Выхаванне савецкіх людзей у духу камуністычнай маралі мяркуе непрымірымую барацьбу з перажыткамі капіталізму ў свядомасці людзей, з антыграмадскімі паводзінамі некаторых асоб. Савецкія людзі не могуць дазволіць сацыяльнаму адшчапенцу, жуліку, спекулянту, хулігану абыходзіць нашы законы. Нельга дазваляць ім атручваць жыццё савецкім людзям.

Барацьба супраць перажыткаў мінулага, за высокую камуністычную мараль савецкіх людзей неаддзельная ад барацьбы супраць буржуазнай ідэалогіі.

Неабходна, таварышы, асабліва падкрэсліць, што мірнае суіснаванне дзяржаў з розным сацыяльным ладам ніколі не азначала і не будзе азначаць мірнага суіснавання розных ідэалогій — сацыялістычнай і капіталістычнай. У галіне ідэалогіі была і будзе весціся непрымірымая класавая барацьба, барацьба за розумы і сэрцы людзей.

Вялікае значэнне мае ў сучасных умовах **барацьба супраць рэцыдываў буржуазнага нацыяналізму, за выхаванне людзей у духу сацыялістычнага інтэрнацыяналізму.**

Нацыяналізм расчышчае дарогу адкрыта буржуазнай, антыкамуністычнай ідэалогіі. Такі вывад справядлівы не толькі ў міжнародным плане. Нам трэба рашуча і настойліва весці барацьбу з самымі нязначнымі нацыяналістычнымі праявамі, адкуль бы яны ні з'яўляліся, у якую б форму яны ні выліваліся — эканамічную, ідэалагічную, культурную. Рэцыдывы нацыяналізму штучна распальваюцца імперыялістычнай прапагандай і выкарыстоўваюцца ў варожых камунізму мэтах.

Ворагі сацыялізма са скуры лезуць вон, каб забіць клін у адзінства сацыялістычных краін і марксісцка-ленінскіх партый. Але дарэмныя іх спробы. Згуртаванасць міжнароднага камуністычнага руху — закон развіцця марксісцка-ленінскіх партый. Сусветны камуністычны рух дае рашучы адпор раскольніцкім, антыленінскім дзеянням кіраўнікоў Албанскай партыі працы.

**Выхаванне працоўных нашай краіны ў духу сацыялістычнага інтэрнацыяналізму складае адну з важнейшых ідэалагічных задач.**

Мы павінны значна ўзмацніць патрыятычнае выхаванне савецкіх людзей, выпрацоўваць у працоўных, асабліва ў моладзі, высокую нацыянальную гордасць, пачуццё годнасці грамадзяніна вялікай і магутнай Савецкай краіны, выхоўваць маладых людзей на рэвалюцыйных традыцыях мінулага, героіцы сучаснага, ідэалах будучага.

**Партыя кліча нас, ідэалагічных работнікаў, не да абароны, а да наступлення на ідэалагічным фронце.** Мы павінны наступаць, наступаць рашуча і ва ўсеўзбраенні, на перажыткі капіталізму ў свядомасці людзей, выкараняць самыя нязначныя рэцыдывы варожых нам ідэй і нораваў. Мы павінны наступаць, наступаць шырокім фронтам, высока несучы сцяг марксізма-ленінізма, выкрываць варожую чалавецтву сутнасць імперыялізму, яго крывавыя справы, яго прагніўшую культуру і ідэалогію.

За плячыма нашай партыі — шматгадовы вопыт арганізацыі і выхавання мас, гады цяжкай і гераічнай барацьбы за новага чалавека. Партыя выпрацавала стройную сістэму і эфектыўныя сродкі ідэйнага ўплыву на масы, іх камуністычнага выхавання.

Савецкая школа, сістэма вышэйшай адукацыі, грамадская навука, літаратура, мастацтва, кіно, прапаганда, друк, радыё, тэлебачанне, установы культуры і іншыя ўчасткі ідэалагічнага фронту маюць велізарныя магчымасці ідэйнага ўздзеяння. Забяспечыць іх максімальную актыўнасць, павысіць іх ролю ў камуністычным выхаванні — найпершая задача партыйных арганізацый.

У нашай партыі створана і паспяхова функцыяніруе шырокая **сістэма палітычнай асветы,** якая аснашчана праграмамі і вучэбнымі дапаможнікамі, мае сотні тысяч таленавітых прапагандыстаў, накапіла вялікі вопыт і валодае склаўшыміся традыцыямі. Партыйная асвета, якая ўзнікла з патрэбнасці палітычнай адукацыі партыйных кадраў, цяпер, калі партыя рабочага класа стала агульнанароднай, а яе ідэалогія — ідэалогіяй усяго народа, вылілася ў **палітычную адукацыю мільёнаў мас працоўных.**

Галоўнае тут заключаецца ў тым, каб і далей трымаць цвёрды курс на ўмацаванне **сувязі палітычнай вучобы з жыццём, на расшырэнне рамак і павышэнне дзейснасці палітычнай адукацыі, на развіццё творчых, самастойных і ў першую чаргу семінарскіх форм вучобы.**

Дакладчык спыняецца на стане і задачах лекцыйнай, масава-палітычнай і агітацыйнай работы, гаворыць аб ролі культурна-асветных устаноў.

Далей ён гаворыць, што ў рашэннях XXII з'езда, у Праграме партыі вызначаны важнейшыя напрамкі дзейнасці **друку.** Наш друк, працягваючы і развіваючы ленінскія традыцыі, у пераважнай сваёй большасці абапіраецца на грамадскую думку, на пісьмы чытачоў, ён імкнецца адпавядаць кожным сваім радком сапраўдным думкам, спадзяванням, надзеям народа. Хіба недастаткова красамоўны такі факт: толькі ў цэнтральныя газеты за адзін 1961 год прыйшло больш чым мільён пісьмаў!

Адметная рыса развіцця друку пасля XX з'езда — перамога выдатных ленінскіх прынцыпаў апоры на рабочых і сельскіх карэспандэнтаў.

Задачы савецкага друку ясныя: усёй сілай, усім сваім талентам, уменнем, партыйнай палымянасцю разам з народам змагацца за ажыццяўленне Праграмы камуністычнага будаўніцтва. Хачу падкрэсліць: трэба рабіць гэта таленавіта, палымяна, смела, ярка, з вялікім уменнем, з гарэннем сэрца.

Сапраўдным палітычным экзаменам для нашых часопісаў, газет, выдавецтваў з'явіцца прапаганда рашэнняў XXII з'езда партыі, яе новай Праграмы. Спатрэбяцца новыя формы, умелы адбор назапашанага і дапаўненні яго тым, што паставіць жыццё. **Савецкі друк заўсёды быў і будзе вяшчальнікам ідэй нашай партыі, выразнікам думак і жыццёвых інтарэсаў народа.**

Вялікія, яшчэ не ў поўную сілу выкарыстоўваемыя магчымасці для палітычнага, культурнага, эстэтычнага выхавання народа маюць **радыёвяшчанне і тэлебачанне.** Тут яшчэ многа недахопаў, непаваротлівасці, руціны, мала пошукаў новых форм работы.

Гаворачы аб стане **кнігавыдавецкай справы ў краіне,** дакладчык адзначыў, што боязь новага, прыхільнасць да прывычных схем наклалі свой адбітак на работу многіх выдавецтваў. Бясконцае рэдагаванне, узгадненне, пагоня толькі за аўтарамі-аўтарытэтамі сталі нормай паводзін асобных выдавецтваў. Савецкія чытачы справядліва прад'яўляюць сур'ёзныя прэтэнзіі да зместу кніг. Ужо ж вельмі многа выходзіць з друку шэраньківх кніжак, а часам і нікому не патрэбных выданняў.

У гэтай сувязі дакладчык падверг крытыцы дзейнасць выдавецтваў замежнай літаратуры і выдавецтва, якое выпускае сельскагаспадарчую літаратуру.

Ва ўмовах камуністычнага будаўніцтва непамерна ўзрастае роля **літаратуры і мастацтва** ў фарміраванні камуністычнага светапогляду і маралі. XXII з'езд даў высокую ацэнку дасягненням літаратуры і мастацтва, ахарактарызаваўшы іх як важны этап у мастацкім развіцці чалавецтва. Але сацыялістычная рэчаіснасць куды больш багатая, чым яна ўвасоблена ў творах некаторых пісьменнікаў і мастакоў, работнікаў кіно і іншых дзеячоў мастацтва.

Падкрэсліваючы вялікую выхаваўчую ролю літаратуры і мастацтва, дакладчык асобна спыняецца на няправільных тэндэнцыях у некаторых творах аб моладзі. У прыватнасці, ён гаворыць, што справядлівай крытыцы ў друку былі падвергнуты раман В. Аксёнава «Зорны білет» і сцэнарый В. Розава «А, Б, В, Г, Д...». Характэрнай рысай маладых людзей, якіх апісваюць В. Аксёнаў і В. Розаў, з'яўляецца скептыцызм. Аўтары не развенчваюць яго, адносяцца да яго са спачуваннем. А гэта ж той скептыцызм, які ставіць пад сумненне ўсё на свеце. Вельмі добра калісьці аб скептыках, якія адмаўляюць рэчаіснасць дзеля самога адмаўлення, сказаў В. Г. Бялінскі. «Толькі розумы дробныя, — гаварыў вялікі крытык, — душы нікчэмныя выхваляюцца скептыцызмам, як модным суkenкай, выхваляюцца ім, як заслугай. Толькі ...фокуснікі і пацешнікі гуляшчага натоўпу, толькі яны сумняваюцца ва ўсім лёгка і весела, забаўляючыся, а не пакутуючы... І што за заслуга — з усяго смяяцца і ўсё ганьбіць — і навуку, і розум, і мастацтва?».

Мастацтва сацыялістычнага рэалізму адкрывае шырокую прастору для праяўлення творчай ініцыятывы, высокага майстэрства, разнастайнасці мастацкіх форм, стыляў і жанраў. Аднак наватарскія пошукі — гэта не фармалістычнае трукацтва, якое заўсёды было праяўленнем прэтэнцыёзнай мяшчанскай безгустоўнасці.

Партыйнае кіраўніцтва — перш за ўсё **ідэйнае кіраўніцтва.** Метад перакранання, растлумачэння, таварыскага абыходжання — асноўны метад партыйнага ўплыву. Але мы не можам стаяць склаўшы рукі, а абавязаны актыўна змагацца за чысціню нашага светапогляду і ў галіне літаратуры і мастацтва, за нашы вялікія рэалістычныя традыцыі, развіваць і ўмацоўваць іх. Дакладчык заклікае дзеячоў літаратуры і мастацтва ствараць высокаідэйныя мастацкія творы, гаворыць аб стварэнні вобраза У. І. Леніна ў літаратуры і мастацтве.

Выдатны прыклад ленінскіх адносін да мастацкай інтэлігенцыі дае Цэнтральны Камітэт, М. С. Хрушчоў. Вострая крытыка недахопаў, непрымірымасць да няправільных і варожых тэндэнцый арганічна спалучаюцца ва ўсіх яго выступленнях па пытаннях мастацтва з клопатамі аб лёсе кожнага савецкага мастака, з жаданнем дапамагчы выйсці на правільны шлях тым, хто дапусціў памылкі і заблуджэнні.

* * *

Пасля таго, як XXII з'езд дакладна вызначыў мэты і напрамкі ідэалагічнай дзейнасці, **яе поспех залежыць ад узроўню і размаху, ад культуры арганізатарскай работы.**

Удасканальванне метадаў арганізатарскай работы — **галоўнае звяно, за якое мы павінны ўхапіцца і рухаць уперад ідэалагічную работу.**

Партыя вучыць нас не супрацьпастаўляць арганізатарскую і ідэалагічную работу, а ўмела спалучаць іх, падпарадкоўваць выкананню вялікіх задач, якія стаяць перад нашай партыяй, усім савецкім народам. Мы не перабольшым, калі скажам, што камуністычнае выхаванне ў сучасных умовах — гэта пытанне пытанняў. Мы выканаем сваю задачу, калі будзем працаваць яшчэ больш актыўна, працаваць яшчэ больш прадукцыйна, змагацца за ажыццяўленне ідэй партыі яшчэ больш настойліва.

XXII з'езд паставіў перад партыяй і народам задачы сапраўды гістарычнага значэння. Іх вырашэнне запатрабуе велізарнай працы і энергіі, максімуму дысцыпліны, арганізаванасці і свядомасці. Мы, работнікі ідэалагічнага фронту, павінны быць на ўзроўні патрабаванняў партыі, добра бачыць будучыню і ўмець адказваць на штодзённыя пытанні жыцця, умела і сур'ёзна весці ідэйную работу ў масах, унесці свой уклад у вялікую справу будаўніцтва камунізма.

Няхай вялікая арганізуючая і мабілізуючая сіла самай прагрэсіўнай марксісцка-ленінскай ідэалогіі яшчэ больш актыўна праяўляецца ў жыцці нашага грамадства!

Справа гонару ўсіх работнікаў ідэалагічнага фронту, наш галоўны партыйны і грамадзянскі абавязак — апраўдаць тое велізарнае давер'е, якое аказваюць нам народ, Камуністычная партыя і яе ленінскі Цэнтральны Камітэт!

ЗА ВУЧОБАЙ.

Фотаэцюд І. Шышко.

ШЧЫРЫЯ СЯБРЫ КНІГІ

# СТАРЭЙШАЯ БІБЛІЯТЭКА

Бадай не знойдзеш ніводнага пісьменніка, які, пабываўшы ў Бабруйску, не наведаў бы бібліятэку імя Пушкіна. Толькі ў апошні час тут выступалі Мікола Гамолка і Мікола Ткачоў, Еўдакія Лось і Пётр Шасцерыкоў.

Ёсць у бібліятэцы свой літаратурна-творчы гурток. Цяпер, калі настае вечар, нярэдка разам з пісьменнікамі выступаюць мясцовыя гурткоўцы: рабочы завода гумава-тэхнічных вырабаў Фрыдлянд, рабочы мэблевай фабрыкі імя Халтурына Сямёнаў і іншыя маладыя паэты і празаікі.

У бібліятэцы лічаць, што літаратурны гурток існуе ўжо больш 30 год. Праўда, лічба гэтая прыблізная. Але дакладна вядома, што беларускія пісьменнікі Міхась Лынькоў, Васіль Вітка, Барыс Мікуліч і кампазітар Я. Цікоцкі ў гады першых пяцігодак прымалі самы актыўны ўдзел у рабоце гуртка.

Бабруйская бібліятэка імя Пушкіна — адна са старэйшых у рэспубліцы. Яна мае сваіх ветэранаў-кнігалюбаў, якія амаль паўстагоддзя з'яўляюцца яе актыўнымі чытачамі. Член партыі з 1917 года тав. Хайкін, успамінаючы гісторыю стварэння гэтай бібліятэкі, расказвае:

— У старым Бабруйску было нямала багацеяў, заводчыкаў, фабрыкантаў, купцоў і памешчыкаў, якія мелі нямала кніг. Але ж рабочаму чалавеку і беднаму рамесніку гэтыя кнігі ў рукі не траплялі. А да ведаў у людзей была вялікая цяга. І ў 1901 годзе на адной з нелегальных першамайскіх маёвак было вырашана стварыць сваю бібліятэку на грамадскіх асновах.

За гэтую справу ўзяліся рабочыя і працоўная інтэлігенцыя. Кожны стараўся дапамагчы чым мог: адны прыносілі кнігі з дому, другія збіралі грошы сярод рабочых прадпрыемстваў горада для набыцця новай літаратуры, сталяры рабілі кніжныя паліцы і шафы, а пераплётчыкі самі прыйшлі і прапанавалі свае паслугі.

Адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі кніжны фонд бібліятэкі значна пашырыўся. Бабруйскі рэўком выключную ўвагу аддаў захаванню канфіскаваных у мясцовых багацеяў кніг, якія былі перададзены бібліятэцы. Рэўком выдзеліў ёй адно з лепшых памяшканняў горада.

У бібліятэцы імя Пушкіна працуюць цяпер старэйшыя культасветработнікі горада тт. Зорына, Гіршэнгорун, Міронава, Свярдлінская і іншыя. Гэта яны яшчэ 30 год назад выступалі на прадпрыемствах Бабруйска арганізатарамі літаратурных гурткоў, чыталі лекцыі.

А цяпер бібліятэка імя Пушкіна мае 60 тысяч кніг. За год чытачы атрымліваюць больш ста тысяч кніг.

Шмат сяброў у старэйшай бібліятэкі горада. Часта яе наведваюць рацыяналізатары прадпрыемстваў горада тт. Палякоў, Мірашнічэнка, Арэшка, члены брыгад камуністычнай працы з фанерадрэваапрацоўчага камбіната, мэблевай фабрыкі, машынабудаўнічага завода. Кнігамі бібліятэкі карыстаюцца больш 200 студэнтаў-завочнікаў сярэдніх і вышэйшых спецыяльных навучальных устаноў.

Вялікую работу праводзіць бібліятэка па прапагандзе матэрыялаў XXII з'езда КПСС. Асаблівай папулярнасцю ў чытачоў карыстаюцца цікавыя масавыя вечары, прысвечаныя маральнаму кодэксу будаўніка камунізма.

М. БЕРАЗІНСКІ,
Г. ДАЗОРАЎ.

# Культурнае будаўніцтва ў фотаздымках

У Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР адбылася канферэнцыя даследчыкаў дакументальных матэрыялаў архіва.

Удзельнікі канферэнцыі пазнаёміліся з фотавыстаўкай «З гісторыі культурнага будаўніцтва ў Беларусі», якая складаецца з трох раздзелаў: кінамастацтва, тэатральнае мастацтва і дзейнасць універсітэта імя Леніна. Асаблівую ўвагу наведвальнікаў прыцягвае раздзел аб кінамастацтве Беларусі. Раздзел адкрываецца дэкрэтам СНК БССР ад 17 снежня 1924 г. аб арганізацыі Дзяржаўнага ўпраўлення па справах кіно («Белдзяржкіно») пры Наркамасветы БССР.

Выстаўка расказвае, што «Белдзяржкіно» сваю дзейнасць разгарнула са студзеня 1925 года. У распараджэнні яго было 53 стацыянарныя і тры перасоўныя кінаўстаноўкі і па два кінатэатры ў Мінску і Віцебску.

З дакументаў выстаўкі відаць, што беларускія мастацкія фільмы ў 20—30-х гадах мелі поспех не толькі ў СССР, але і за граніцай. На экранах Германіі, Галандыі, Кітая, Чэхаславакіі і іншых краін дэманстраваліся беларускія фільмы «Лясная быль», «400 мільёнаў», «Рубікон».

Багатыя раздзелы выстаўкі па гісторыі беларускага тэатра і арганізацыі адукацыі ў БССР.

Е. ВАСІЛЬЕЎ.

# НА САМАДЗЕЙНАЙ СЦЭНЕ

Якіх толькі таленавітых людзей не сустрэнеш у маладым горадзе Салігорску! Больш ста шахцёраў і будаўнікоў ахвотна займаюцца пасля работы ў драматычным, харавым і танцавальным гуртках, створаных пры мясцовым клубе. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці працуюць над навагодняй канцэртнай праграмай — развучваюць новыя песні, танцы, рыхтуюць пастаноўкі драматычных твораў.

На гэтым здымку вы бачыце, як удзельнікі тэатральнага калектыву рэпеціруюць п'есу А. Сафронава «Кухарка замужам».

Фота П. Наватарава.
Фотахроніка БЕЛТА.

